Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя Вастра-Брамская, № 9— адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год І. Вільня, Нядзеля 20 ліпня 1919 г. № 50.





# ПАТРОЙНЫ ЦЯГАР.

Дзе жыцьцё—там і барадзьба. І дванаццацімільёны беларускі народ павінен цяжка бароцца за свой незалежны быт на ўсіх істнуючых, на тэрыторы б. Расеі, фронтах. Сваей барадзьбой беларус даказаў, што ён жыве і мае права на жыцьцё. Багатыя ахвяры паложэныя крывёй і мукамі лепшых сыноў — гэта бязвінная кроў за аткупленьне бацькаўшчыны з нядолі і няволі, у якай дагэтуль яна гібела.

Побач з барадзьбой за палітычную незалежнасць нам прыходзіцца вынасіць на сваіх плечах яшчэ барадзьбу за дэмократычныя ідэі і дэмократычны лад на сьвеце. Гэто нашэ пасланніцтво, нашэ празначэньне. Мы—нацыя сялянская. Нацыя народу «простага», дэмасу. Вось чаму на беларусаў скіроўываецца ўвесь імпэт напору с правай стараны. Вось чаму беларус ніколі ня можэ быць у згодзе з ніякім панствам,— ні з заходным, ні з усходным.

Углядаючыся ў дэмакрацыю суседніх нам народаў, мы знаходзім аналёгію з нашым палажэньнем і зразуменьне нас толькі ў нацыях падобных нам демакратычных, сялянскіх пазбаўленых палітычнай, так сказаць, буржуазнасьці, якая выліваецца ў форме імпэрыялізму. Хто з нас не знае, як цяжка нам прыходзіцца знаходзіць зразуменьне нашых палітычных дамаганьнеў у демакрацыі польскай і расейскай. А зразуменьне гэто яшчэ не значэ—прызнаньне. Усё-ж такі, слушна трэба сказаць, што сякога-такога зразуменьне, на пункце нашых палітычных і станавых інтэрэсаў, прынамні элемэнтарных, шчыра ці ня шчыра, сям там знайсьці можэм.

Затое ў нашай барадзьбе за право на нацыянальнае жыцьцё мы не дагэтуль не знаходзілі зразуменьня ні ў польскай, ні ў расейскай дэмакрацыі. Пашанаваньне нацыянальных правоў беларускага народу ў польскай і расейскай дэмакрацыі дагэтуль ня выходзіло з рамак тэорыі. На практыцы, прыбітых экономічна і культуральна беларускіх сялян таксама добра дэнацыяналізуюць польскія клерыкалы, як і польскія сацыялісты.

Ось той грунт, на якім растуць краскі раздору. І расьці брдуць датуль, дакуль будуць наставаць на нацыянальнае жыцьцё беларускага народу. Пакуль ня будзе пашаны да нацыянальных правоў беларусаў, то ўсе гутаркі аб дэмакратычнай згодзе—няшчырае салодка-мляўкае базіканьне, прыкрае здароваму арганізму.

І хоць цяперашняя барадзьба на права на жыцьцё і на незалежнасць Беларусі, на сьвядомае беларускае грамадзянство кладзецца патройным цягарам, аднак вера ў вялікую потэнцыанальную (скрытую) жыцьцёвую сілу дае нам моц да змаганьня, дае нам веру ў тое, што боручыся-паборэм.

**Свой.**

## У Цэнтральнай Радзе.

Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Гродзеншчыны апошнімі днямі пeрэжывала крызыс, які закончыўся 16 ліпня адмоваў старшыні Рады, інжэнера Кляўдуша Душэўскаго ад старшынства ў Радзе. Грамадзянін Душэўскі злажыў с сябе поўнамочча, узложэныя на яго зьездам, с прычын «асабістых», як сказана ў заяве. Ходзяць аднак чуткі, што па за асабістымі прычынамі былі прычыны прынцыпіальнага характэру.

За старшыню прэзыдыум Рады выбраў кандыдата філёлёгіі Браніслава Тарашкевіча, які ўжо приступіў да выпоўненьня сваіх абавязкаў. Выбары ў старшыны грамадзяніна Б. Тарашкевіча, поводле пастановы самога прэзыдыума, павінна быць пацьверджэна агульным сабраньнем усей Рады.

Злажыўшы з сябе поўнамочча быўшы старшыня Рады грамадзянін К. Душэўскі гэто стары беларускі дзеяч, які вёў у часе вайны беларускія арганізацыі ў Петраградзе, належыць да беларускай партыі С.-Р. умяркаванага крыла гэтай партыі і мае ў сваіх партыйных кругах вялікую павагу. Левая частка беларускага грамадзянства прыняла адмову гр. К. Душэўскаго, як нахіл управа палітыкі Рады.

# У Літве.

Урад Літвы утварыў камісію для апрацаваньня выбарнага права на устаноўчы Сойм. Пасяджэньня камісіі адбываюцца што другі дзень. На пасяджэньнях апрацовываюцца уставы для выбараў у Устаноўчы Сойм. Праект выбараў мае быць апрацованы камісіяй і пададзена на разгляд і затвярджэньне Кабінэту Міністраў да 31 ліпня.

Галоўныя пункты апрацованыя камісіяй да 5 ліпня ніжэйсьледуючыя.

1) Актыўнае выбарнае права ў Устаноўчы Сойм Літвы маюць ўсе яе жыхары без розніцы нацыі, веры, мушчыны і кабеты, тыя што скончылі 20 гадоў перад днём ў якім пачнуўцца рабіцца спіскі для выбараў.

2) Пасыўнае выбарнае права маюць асобы са скончанымі 24 гадамі. Адзначаючы гады асоб маючых актыўнае ці пасіўнае права будзе брацца толькі каляндарная дата. Год радзін будзе адлічацца ад дня радзін бяз рожніцы, ці дзень гэты запісаны па стараму ці па новаму стылю.

3) Ад выбіраючых і тых, каго выбіраюць, ня будзе вымагацца ніякага цэнзу.

4) Выбары ў Устаноўчы Сойм будуць для усіх тайныя, безпасрэдныя, роўныя і прапарцыянальныя.

5) Войскі, афіцэры і салдаты маюць толькі пасыўнае права голасу, а не актыўнае.

6) Пасыўнага голасу ня маюць некаторыя чыноўнікі ў тых паветах, дзе яны служаць і ня могуць быць выбраны ў Сойм начальнікі паветаў, начальнікі міліцыі і вайсковыя каманданты. Чыноўнікі не вайсковыя (вольнанаёмныя) Міністэрства Абароны Края маюць права голасу, але мабілізаваныя чыноўнікі, як ўсе вайсковыя, яго ня маюць.

7) Ня маюць права голасу асобы патраціўшыя грамадскія правы водле пастановы суда.

8) Лік сябраў Устаноўчага Сойму залежыць ад ліку выбарцаў. Аднаго прэдстаўніка выбіраюць 15.000 жыхароў.

9) У справе выбарных вокругаў пастаноўлена, што ў ва усёй Літве будзе 30 выбарных вокругаў.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*16 ліпня.*

**Літоўска-Беларускі і Палескі фронты.**

На абодвых фронтах буйных стычак ня было.

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

Пасьля перарыву, вызванага патрэбай даць нашым войскам спачывак, перагрупаваць іх і ўрывясьці ў парадак тыл, 15 ліпня нашыя войскі пачалі ізноў наступленьне. Няпрыяцель, захопляны зьнячэйку нашай атакай, у начы каля Паноўца, аказаў крэпкі атпор, але пасьля кароткага боя павінен быў адыйсьці. У 3 гадзіны нараніцы Тарнопаль быў ужо ў нашых руках. Нашыя войскі зламалі атпор няпрыяцеля на некаторых вучастках, выпіхнулі яго па ўсей лініі з занятых пазыцый і ў вечары дайшлі да назначаннай ім лініі, занялі Трэмбоўлю і Чарткоў. Нашыя лётчыкі даляцеўшы да украінскага тылу выкінулі замешку і перапалох. Няпрыяцель кідаючы на нас новапрыбыўшыя войскі, хацеў астанавіць ход нашых войск, але без пасьпеху. Нашы войскі гналі украінцаў без перадыш, кі, ня даючы ім часу зьніштожыць мастыякія у большасьці не папсаваныя, дасталіся нам. На раніцы 16 ліпня нашы войскі кінуліся ўдагонку на няпрыяцеля. Мы забралі: каля 2000 палонных, у гэтым ліку некалькі афіцэраў, 4 гарматы, 27 куляметаў, 13 мінамётаў, 550 вагонаў і 43 паравозы.

**Бальшавікі разьбіты каля Бахмача.**

Вар. газэта «Эхо» падае весткі з Луненца, што Бахмач ўзят Денікіным. Чыгунка між Гомелям і Бахмачам, ня ходзіць. Жыхары ўсюды паўстаюць процiў бальшавікоў і з радасьцьцю сустрэчаюць войскі дабравольцаў. Параходы па Дняпру ходзюць толькі ў дзень, бо ў начы паўстаўшыя жыхары на іх нападаюць. У Гомелі вялікая паніка: бальшавікі баяцца што тутака магчыма злучэньне польскіх войск з армiяй Денікіна. Бальшавікі абвесьцілі ў Гомелі агульную мабілізацыю да 45-х гадоў, афіцэраў да 50-х і генералаў да 60-х.

---

## Дзьве душы.*)

XI.

Алечка ведала, што ў яе жыцьці ідуць чарадою то добрыя, то нядобрыя дні. Яна навет заўважала, што дрэнны настрой, гэная адзнака злыдняў пачынаецца заўсёды звечара ў панядзелак.

І ня так было Алечцы прыкра тое, што Ігналік паехаў не разьвітаўшыся, як тое, што адʼезджаньне яго трапіла на пачатак нядобрай паласы жыцьця.—«Яшчэ падумаюць, што я аб тым шкадую», — разважала дзяўчына і наўмысьля хавала ад усіх свой брыдкі настрой.

— Зусім ня можна было спадзявацца, каб прапаршчык Абдзіраловіч быў гэткі неўзгадаваны: выехаў нічога нікому не сказаўшы, быццам уцёк,—так жартам казала яна і так наўмысьля сьмяялася:— а хоць і ўночы выяжджаў, каб ведама, схадзіла-б на вакзал,—так яшчэ дадавала яна, каб кожды зразумеў, што ёй а ні каліўца не карціць ні яго узгадаваньне, ні яго адʼезджаньне: яна гаворыць, каб насьмяяцца.

Князь, аднак, разумеў яе зусім інакай і без праўдзівага сьмеху паднімаў голеную, пульхлую губу з чорнаю мецінкаю, паказваючы белыя, быццам пена, зубы. Заўважыў тое, што яна хавала ад усіх, і перш з прыкраю цярплівасьцю, а далей з цярплівай злосьцю скаліў ён свае зубы і не хацеў ці, можа, і ня мог мець замкнуты твар перад раптам зьнялюбелаю дзяўчынаю.

А за гэта і сам зьнялюбеў ёй.

— Князь... падумаеш: наўда вялікая!— казала яна у той дзень сваёй малодшай сястрычцы, клаўшыся спаць:—усе за яго ніжэйшыя, усе неўзгадаваныя, толькі ён адзін харошы, падумаешь!.

— Мне ён ніразу не падабаўся, — адмовіла маўклівая Лёля.

— А мне, думаеш, падабаўся?—спыталася Алечка і ня ведала, што яшчэ казаць, трошку памаўчала.

— Хто цябе ведаець,—неяк здалёку і быццам з неахвотай казала сястра, закідаючы рукі за голаў, на падушкі, — пэўне падабаўся, калі прапаршчыка Абдзіраловіча праменяла на яго, а той быў такі добра і слаўны.

Ад гэтых слоў Аля яшчэ болей усердзілася.

— Ат! нічога ты, Лёлька, не разумеш,—скоранька адказала яна;—не магла-ж я сама бегаць за гэтым сьвятым Абдзіраловічам, ён не хацеў гуляць з намі...

— Што там табе казаць,—зьвярнула Лёля размову на шчырасьць: — пан Ігнат быў табе зусім ня «гэты» і дарма ты завеш яго сьвятым. Каб ты ня слухала князя, хто якога роду, дык-ба лепей было.

— Ну, што-б было?

— А тое, што князю ня выпадае казаць у нас аб тым, хто якога роду калі мы самі з мужыкоў.

Аля пачырванела.

— Ты, Лёлька, малая, а лезеш у вялікае і нічога не разумееш... Ні-чо-гінька, а нічымчагенька! І таксама было-б лепей, каб ты ніколі не гаварыла аб нашым родзе. Мамачка, ведай гэтага ня любіць. Наша мамачка ўнучка генерала, а татулькін толькі дзед быў з простых, гэта ўжо даўно. А ты не-ра-зу-ме-еш!

— Няхай сабе я ня разумею, а ты Аля разумееш, а пана Ігната пакрыўдзіла, а цяпер шкадуеш, хоць ніхто-ж табе не вінават.

— Лёлька, маўчы! Пакахаеш сама, тады будзеш ведаць, як казаць... Сьпі адна, калі ты гэткая, — скрозь сьлёзы скончыла гутарку Аля і пайшла спаць у пакой да няні.

У гэты час у сенцах зазьвінеў званок.

Няня адчыніла і шыбка прыбегла назад сказаць, што прыехаў сам Мікола Мартынавіч.

(*Далей будзе*).

**М. Гарэцкі.**

*) Гл. №№ 24—49.

# Старыя.

З далёкай Уфы, цераз галодную і халодную Расею, яны прыехалі. У сваіх шэрых, доматканых сьвітах, то ў лапцях то босыя, без усякіх прапускоў і дазваленьеў, яны то ехалі на чугунцы, то ішлі

# Беларусь.

## ВЕСТКІ З МЕНСКУ.

Учора прыехеў у Вільню адзін з інтэлігентных менчукоў, уцёкшы ад бальшавіцкага тэррору. З Менску выйшаў ён пехатою 6 ліпня, а некалькі дзён хаваўся ў адным з мястэчак пад Менскам, пасьля-ж пехатою перабраўся цераз фронт.

Польскія войскі займаюць цяпер ужо мястэчка Радашкавічы, стянцыя Радашкавічы (6 верст ад мястэчак) знаходзіцца тымчасам у руках бальшавікоў. Трымаюцца тут бальшавікі найбольш дзякуючы двом добра узброеным панцэрным цягніном, якія ўвесь час ходзяць паміж Менскам і Радашкавічамі і час ад часу абстрэлююць мястэчка.

На поўнач-жа ад зялезнай дарогі ў глыбіне правінцыі бальшавіцкіх войскаў саўсім няма. Але народ на гэтулькі тэрорызаваны усякімі «камісарамі» і «чрезвычайкамі», што баіцца адазвацца нават проці насільнікаў.

У мястэчках сядзяць «камісары», якія маюць права арыштаваць і разстрэліваць без суда і з гэтага права карыстаюць. Арыштуюцца ведама ўсе «контр-рэвалюцыянеры» і праўдзівыя і проста нідагадзіўшыя пану камісару грамадзяне. Арыштуюцца сем'і уцёкшых ад арышту і асабліва тых, што пайшлі ў легіоны і г. д.

Асабліва арышты павялічыліся пасьля ўзяцця Маладэчна. Менская Чрезвычайка мае каля 1800 агентаў, разьбітых на пяцёркі, і можа зрабіць за ноч да 1000 вобыскаў. Вось за апошнія дні зробляны былі вобыскі блізка у ўсіх асобаў, якія мелі хоць найменшае дачыненьне да справы беларускай: шмат хто з іх арыштаваны. Ня спыняюцца і разстрэлы. Аказуецца, што Камітэт Абароны Менску вынес пастанову аб узмацненьню тэррору, каб гэтым «умацаваць знадворны фронт».

Беларускае жыцьце ў Менску саўсім блізка разгромлена. Нават беларускіх камуністаў выжыла з Менску вядомая усім хэўра бальшавікоў-руссіфікатароў і цэнтравістаў. Доўга будзе памяцен беларускаму Менску гэты коммуністычны рай.

## З ГОРАДНІ.

Беларуская гродзенская газэта, выдаваная партіей беларускіх народнікаў «Родны Край» спынена, №5 конфіскаваны уласцямі. Рэдактар некуды скрыўся. З гэтай прычыны пачаліся ў Горадні арэшты сярод беларусаў пастунова-народніцкага кірунку. Мейсцовы сьледавацель заклікаў у сваю канцэлярыю на допрос нават п. Алексюка і п. Фохта.

Гродзенская Беларуская Управа, групаваўшая каля сябе беларусаў расейскай арьентаціі, цэлком арэштавана. Падобна ў п. Боева, члена Гродз. Бел. Управы, пры обыску знайшлі нейкія компромітуючыя яго лісты, а ў Яковюка значную суму грошы. Протоіерэя Корчынскага такжэ арэштава і маюць вывезьці ў Кракаў.

Затое вялікай падобна сымпатіей у некаторых высокіх сфэраў чыноў акупацыйнай гродзенскай уласьці цешацца ісціна рускіе кірункі тутэйшай палітычнай мыслі. Навязываецца гармонійны кантак паміж расейскімі і польскімі абшарнікамі-памешчыкамі. Чорная расейская сотня і эндэція ўзаемна сябе ўспамагаюць: у каталіцкіх парафіях аткрываюцца польскія эндэцкія арганізаціі, а пры праваслаўных прыходах—руския (праз два „с") камітэты.

Мае нават хутка выйсьці ў Горадні расейская газэта.

**Праездны.**

# У ВІЛЬНІ.

### Курсы беларуса знаўства.

Беларуская Войсковая Арганізацыя арганізуе пачынаючы с панядзелку 21 ліпня курсы беларуса-знаўства: беларуская мова, літэратура, гісторыя, географія. Курсы будуць у будынку Б. В. Арганізаціі. Пакуль што запісалося на курсы 70 асоб.

### Касаваньне беларускіх вывесак.

„Glos Litwy" у № 54 падае з ашмянскага павету, што зараз жа па заняцьці легіяністамі павету, польскі урад загадаў, каб ўсе вывяскі былі напісаны па польску. Калі тутэйшыя беларусы загаду гэтага ня сполнілі, польскі урад распарадзіўся зьняць вывяскі, пакінуўшы тыя толькі, якія былі напісаны па польску.

## Распісаньне паяздоу.

Цяпер на віленскім дарожным вузле ходзяць паязды водле ніжэйсьледуючага расьпісаньня:

*У кірунку Вільня—Ліда.*

№ 507 выходзіць з Вільні а 6 г. нараніцы.
№ 521 „ „ „ 4 „ папаўдні.

*У кірунку Ліда—Вільня.*

№ 522 прыход. да Вільні а 10 г. 50 м. нараніцы
№ 508 „ „ „ 4 „ — папаўдні.

*У кірунку Вльня—Смргонь.*

№ 754 прыходзіць да Вільні а 12 г. 8 м. у начы.

*У кірунку Вільня—Н.-Сьвенцяны.*

№ 951 выходзіць з Вільні а 2 г. папаўдні.
№ 952 прыходзе ў Вільню а 6 „ у вечары

*У кірунку Вільня—Вака.*

№ 601 выходзіць з Вільні а 7 г. нараніцы.
№ 605 „ „ „ 2 „ папаўдні.
№ 607 „ „ „ 7 „ 30 м. увеч.

*У кірунку Вака—Вільня.*

№ 604 прыходзе у Вільню а 11 г. — нараніцы.
№ 606 „ „ „ 3 „ 10 м. папаўд.
№ 608 „ „ „ 3 „ 40 „ увечар.

Ад 17 чэрвеня ходзіць адзін поезд паміж Вільняй і Горадняй цераз Ваку, дзе трэба перасядаць з прычыны папсаваньня мосту.

Поезд гэты адходзіць з Вільны а 7 г. нараніцы.



Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23